Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

12 – 18 ЛЮТАГА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 15000 РУБЛЁЎ
№7 (199)

## АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

### Масла зноў "свабоднае"

З 1 лютага райвыканком дазволіў продаж масла ў магазінах без спісаў, якія пратрымаліся, такім чынам, усяго месяц.

З цукрам – крышку складаней. Спісы пакуль што захоўваюцца, аднак гандлёвым арганізацыям і магазінам дазволена набываць яго па свабодных адпускных цэнах. Так што салодкага прадукту на прылаўках прыкметна пабольшае.

*Павел МАКЛЮК.*

ВІЛЕЙКА

### АЗС–2000

Ад пачатку года вядзецца будаўніцтва аўтазаправачнай станцыі на скрыжаванні дарог Маладзечна–Нарач і Вілейка–Асіпавічы (каля вёскі Ручавыя).

Ужо зроблена свідравіна для забору вады, вядзецца закладка катлавана пад ёмістасць з палівам. Будаўніцтва вядзе мясцовая ПМК–88. Будаўнікі сцвярджаюць, што заправіцца на новай АЗС можна будзе ў 2000 годзе.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

МАЛАДЗЕЧНА

### Рухаюцца філаматы

Заключным экзаменам завяршыліся заняткі, якія праходзілі ў рамках "Народнага ўніверсітэта", арганізаванага навукова–аналітычным цэнтрам "Беларуская перспектыва".

Дыпломы з рук яго рэктара **Юрыя Хадыкі**, вучонага сакратара Уладзіміра Анцулевіча і выкладчыцы эканомікі **Людмілы Грaзновай** атрымалі больш за 30 слухачоў, якія напрыканцы мерапрыемства стварылі ў горадзе "Рух філаматаў". Узначаліў яго выпускнік "Народнага ўніверсітэта" **Андрэй Асмалоўскі**.

*Алесь ЦАДКО.*

ВАЛОЖЫН

### Павозкам наладзілі "зрок"

Камплекты святлоадбівальных знакаў для гужавога транспарту з'явіліся ў продажы ва ўсіх прамысловых магазінах валожынскага каапунівермага.

ДАІ патрабуе ўстанаўліваць знакі і на гужавыя павозкі. Гэтую спецыфічную прадукцыю вырабляюць у Івянцы на дзяржпрадпрыемстве "Крыніца".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

### Днямі чакаецца пік грыпу

За першыя 7 дзён лютага 301 жыхар Вілейшчыны захварэў на грып. Пераадолены эпідэмічны парог. 8 лютага толькі за першую гадзіну работы паліклініка атрымала 150 выклікаў. А непасрэдна на прыём прыйшло больш за 300 хворых. І гэта паказчыкі толькі па дарослым насельніцтве.

У сувязі з эпідэміяй улады павялічылі колькасць транспарту для ўрачоў і тэлефонных ліній для выклікаў. Праводзіцца тлумачальная работа, каб хворыя выклікалі ўчастковых на дом, а не кучкаваліся ля кабінетаў паліклінікі.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

СМАРГОНЬ

### Прыбытковыя сухадрэвіны

На Смаргоншчыне, як і па ўсёй Беларусі, у некаторых мясцінах сохнуць елкі, нават старадрэвіны. Пакуль навукоўцы ды практыкі высвятляюць прычыны такой неардынарнай, невядомай векамі ў нашым краі з'явы, прадбачлівыя і гаспадарлівыя людзі імкнуцца скарыстаць з выгадай для сябе нават такую сітуацыю.

З дазволу лясной гаспадаркі калектыў райпалівазбыту занята на ўласнай пілараме вырабам з елак, што падсыхаюць, рознай дошкі ды брусоў. Летась іх было нарыхтавана 819 кубаметраў. Таннейшыя, чым у іншых арганізацыях, піламатэрыялы ахвотна набываюць вяскоўцы і гаражане. Хаця і не першы сорт, але ў гаспадарцы заўсёды патрэбныя.

Работу піларамы забяспечвае **Пётр Клімянок**. Выручка склала 203 мільёны рублёў, а чысты прыбытак – 46,5 мільёна рублёў.

*Павел МАКЛЮК.*



ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

## Кожнай школе па куратніку

**МІНСК.** ***Раённыя аддзелы адукацыі сталічнай вобласці перанеслі лёгкі шок. Начальнік упраўлення адукацыі аблвыканкома Аляксандр Новік даверу загадчыкам РАА: да 10 лютага прадумаць і адказаць, якую жыўнасць іхнія сельскія школы будуць гадаваць. І каб потым было з каго спытаць, рэкамендацыю – загад аформіў пісьмова.***

Як нам стала вядома, ініцыяваў акцыю па вырошчванні курэй, трусоў, авечак, свіней аблвыканкам. З вясны ў вясны передаюць вясковыя настаўнікі крылаты чыноўніцкі выраз: "сельскія школьнікі 150 дзён на год павінны ў школах есці мяса".

На раёне работнікі адукацыі збіраюць заяўкі – якая школа на чым будзе спецыялізавацца і ў якім аб'ёме. З дакумента вынікае, што маладняком забяспечыць дзяржава, 50% выгадаванага статка школы пакідаюць сабе, другую палову здаюць дзяржаве. Мой добры сябра, дырэктар сярэдняй школы на Маладзечаншчыне сказаў, што бярэ абавязкі гадаваць коней. На абед дзецям каніну не зварыш, але конь у гаспадарцы, нават школьнай, патрэбны.

Наогул жа, дырэктары жартуюць:

– А чаму б страусаў не разводзіць? На чорным рынку 50 долараў за кілаграм даюць.

А калі сур'ёзна, то акцыя можа стаць фікцыяй. Каб займацца жывёлагадоўляй, трэба вырашаць шмат гаспадарчых пытанняў: ад прыстасаванняў месцаў да назапашвання на зіму корму. А ў дакуменце не значылася, што ўводзіцца ў школах новыя пасады даглядчыка ці настаўніка–селекцыянера.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Свінка маёй радні.*
ФОТА З АРХІВА «РГ».

КОЛЬКІ НАС?

## 16 лютага нас перапішуць



*На здымку: вядучы спецыяліст па перапісу Таццяна Папова.*
ФОТА АЎТАРА.

***МАЛАДЗЕЧНА. 750 чалавек прайшлі "курсы", пасля чаго навучыліся лічыць насельніцтва горада і раёна.***

У сем'і звычайна будзе заходзіць адзін лічыльнік з дэрмацінавым партфелем, адпаведным функцыям пасведчаннем. Так што звяртайце ўвагу на гэтыя быццам бы дробязі – у прыватнасці, мусіць быць чорнага ці карычневага колеру. У сацыяльна небяспечныя сем'і лічыльнікі пойдуць з праважатымі – супрацоўнікамі міліцыі.

Прыйдзецца "пазмагацца" з самым палахлівым кантынгентам – пенсіянерамі. Сёння не кожны з іх адчыніць дзверы на званок (і правільна зробіць).

Начальнік Маладзечанскага гарадскога аддзела статыстыкі **Святлана Абрамовіч** гаворыць, што "лічыльнікі" будуць шукаць розныя варыянты, каб якасна зрабіць справу і ўкласціся ў вызначаны тэрмін.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

ЭКСПРЭС–АПЫТАННЕ МАЛАДЗЕЧАНЦАЎ

## Што такое "крызіс"?



***Уладзімір Кавалёнка:***

– Калі па Беларускім тэлебачанні гавораць адно, а ў рэальным жыцці бачыш зусім іншае. Калі цяжка ўладкавацца на работу, а цэны вар'яцкія.



***Святлана Сарока, загадчыца дзіцячай бібліятэкі, філіял №3:***

– Па кольказці і разнастайнасці кніг, часопісаў, газет крызісу не адчуваем. Але не маем сродкаў набыць новую мэблю, аднавіць інтэр'ер.



***Аляксандр Крыцкі:***

– Трэба абясці з дзесятак магазінаў, каб набыць патрэбнае па адносна невялікай цане. А некалі ўзяў грошай роўна на хлеб і малако, прыйшоў у магазін, а цэны ўжо змяніліся.



***Аляксандр Баруноў, музыкант у кафэ:***

– За апошні год нейкіх буйных рэчаў не купляў. Дзіцячае харчаванне каштуе не танна – да 20–30 тысяч. Дзіцячыя калготкі – 100. Жонка ў дэкрэтным, мае мільён у месяц.



***Руслан Міліцін, Міша Раманчык, вучні 8 "Б" класа СШ №12:***

– Гэтае слова неяк звязана з краінай. Для нас жа крызіс – гэта калі мы збеглі з урокаў, а настаўнік нас "застукаў".



***Галіна Цімафееўна:***

– Я не бядую. Сёння абед згатавала. І заўтра згатую. Хлябок у магазіне ёсць. Зарплата будзе.



***Юрый Церах, прадпрымальнік:***

– Мая фірма ў Мінску не вытрымала – развалілася. Вымушаны працаваць у чужой.

ФОТА–АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ВІТАЛЬ КРУПЯНЬКОЎ.

ЖЫЦЦЁ НАШАЕ

# Біл прывез гуманітарку

МАЛАДЗЕЧНА. Прадстаўнікі хрысціянскай дабрачыннай арганізацыі "Служэнне Джоша Макдауэла" з амерыканскага штата Тэхас апошнія 7 год рэгулярна прыязджаюць у Беларусь. На гэты раз яны завіталі ў Маладзечна.

У актавай зале СШ №6 разам са сваімі бацькамі сабраліся хворыя дзеці і дзеці з малазабяспечаных сем'яў, а таксама сіроты. Арганізаваць сустрэчу дапамагло мясцовае аддзяленне фонду міру.

Гуманітарны груз – лекі, прадукты, цацкі збіралі ў некалькіх штатах ЗША.

– Кожны падарунак вам – гэта праяўленне нашае любові, – сказаў дырэктар праекта "Аперацыя падтрымкі" Біл Бэнфелд.

*Аддзел інфармацыі.*



*Кіраўнік групы Біл Бэнфелд.*



*Чалавеку няшмат трэба.*




*У чаканні гаспадара.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.



НАШАЕ КІНО

# «Тытанік» зноў перамагае

ВАЛОЖЫН. Мясцовы кінатэатр "Юнацтва" стаў лепшым ў вобласці. Сярэдняя наведвальнасць яго ў год адным гледачом 5,5 (па вобласці паказчык 2,2).

А самы касавы фільм года – вядома, славуты "Тытанік". У папярэднім нумары «РГ» паведамляла, што гэты фільм летась быў самым папулярным і на Мядзельшчыне.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Ren-TV
## на выхадныя

**ПЯТНІЦА, 12 лютага**

8.00, 9.00, 12.00, 13.40, 16.45, 19.30 Новости 8.05, 8.45, 12.35 Телемагазин 8.20 «Симпсоны» 9.05, 17.55 «ЧЕРНАЯ ЖЕМЧУЖИНА» 9.55 «Музыкальная коллекция» 10.00 «Звони и смотри» 12.05, 19.55 «Третий лишний» 13.05 «Сегодня с вами я, цыгане» 13.45 «В ПОИСКАХ КАПИТАНА ГРАНТА» 15.15 «НАНО» 16.15 «ДЕРЗКИЕ И КРАСИВЫЕ» 17.00 «Лиса и волк» 17.15 «Огненный шторм» 18.55 «АЛЬФРЕД ХИЧКОК» 19.45 «Спорт-курьер» 20.20 «Федорино горе» 20.30 «ВТОРЖЕНИЕ В ЛИЧНУЮ ЖИЗНЬ» 22.25 «Что случилось» 22.55 «КВАЙДАН».

**СУБОТА, 13 лютага**

8.00, 10.25, 13.30, 16.45, 19.30 Новости 8.05 «Симпсоны» 8.30, 18.30 «ЧЕРНАЯ ЖЕМЧУЖИНА» 9.30 «ЧЕРТОВА СЛУЖБА В ГОСПИТАЛЕ МЭШ» 10.30 «ВТОРЖЕНИЕ В ЛИЧНУЮ ЖИЗНЬ» 12.30 «Акватория Z» 13.00 «ШЕСТНАДЦАТИЛЕТНИЕ» 13.35 «Детская для взрослых» 14.00 «ЛЮБОВНЫЙ ТРЕУГОЛЬНИК» 17.00 «Глашины сказки» 17.15 «ПЛЯЖ» 18.15 Киноконцерт 19.45 Ток-шоу 20.30 «БРАТВА» 22.15 «Белый попугай» 22.50 «МАЙК ХАММЕР »

**НЯДЗЕЛЯ, 14 лютага**

8.00, 10.25, 13.30, 16.45, 19.30 Новости 8.05 «Симпсоны» 8.30 «ЧЕРНАЯ ЖЕМЧУЖИНА» 9.30 «ЧЕРТОВА СЛУЖБА В ГОСПИТАЛЕ МЭШ» Комедия 10.30 «Четвертая власть» 11.00, 17.15 «ПЛЯЖ («СПАСАТЕЛИ МАЛИБУ»)» 12.00 «ДЕТСТВО БЕМБИ» 13.35 «Военная тайна» 14.05 Мир спорта 14.30 «ЗОЛОТО НЕАПОЛЯ». 16.15 «Реноме» 17.00 «В прямом эфире Кот Порфирий» 18.15 «1/52» 18.30 «ИЛЛЮЗИЯ УБИЙСТВА» 19.45 «Спорт-курьер» 19.55 «УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ» 20.30 «СЕКРЕТНЫЕ МАТЕРИАЛЫ» 21.30 «Случайный свидетель» 22.05 «ЗАБАВНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ КРОВАВОЙ МАМОЧКИ», «ЛЮБЛЮ ДО СМЕРТИ», «РЮЙБЛАЗ».

КОНКУРСЫ

# Карона "міс Маладзечна" стане пераходнай

***МАЛАДЗЕЧНА. 28 лютага ў зале музвучылішча пройдзе конкурс прыгажунь. Апошні быў паўтара гады таму. З гэтага года карона «міс Маладзечна» стане пераходнай.***

– Тады, ў 1997–м, конкурс праходзіў у тры туры, – гаворыць дырэктар гарадскога Дома культуры **Ганна Уладыка**, – сёлета гледачы ўбачаць толькі фінал. Мы адмовіліся ад паказу ўдзельнікамі нацыянальнага касцюма. Калі маладзёжны, вячэрнюю сукенку дзяўчаты пярашыюць, скамбінуюць, то нацыянальны касцюм прыйшлося б ствараць з нуля. Па фінансах гэта цяжка. На ўдзел у конкурсе пададзена больш за 20 заявак. Шчыра скажу, што "матэрыял" неблагі. Па сваіх дадзеных у лепшы бок адрозніваецца ад удзельнікаў 1997 года.

Тэлефонны званок "міс Маладзечна–97" **Іне Каханоўскай**:

– У сёлетнім конкурсе не ўдзельнічаю – няхай іншыя прызы збіраюць. Мая карона, як сувенір, на ўсё жыццё. (Дарэчы, мельхіёравая карона выкананая па спецзаказе і па цэнах 1997 года каштавала 11 мільёнаў – **рэд**.). Атыманы ў падарунак аўдыёмагнітафон "Panasonic" заўсёды ў рабоце.

Пасля ўдзелу ў абласным конкурсе прыгажунь Іну на некалькі месяцаў запрасілі павучыцца ў нацыянальнай школе прыгажосці. Дзяўчаты жылі ў Раўбічах, займаліся ў Мінску. У праграму ўваходзіла і вывучэнне замежнай мовы.

**– З той перамогі ў горадзе прайшло больш за год. Ці змянілася неяк тваё жыццё?**

– Здымацца ў кіно, кліпах, рэкламе ніхто не прапаноўваў. Працую ў гандлёва–прамысловым камбінаце "Аксаміт". Шлюб яшчэ не ўзяла. Не спадзявалася, што перамога ў Маладзечне вывядзе мяне на рэспубліканскі ўзровень, проста мая самаацэнка стала вышэйшай. І стаўленне людзей змянілася – прыемна, калі пачынаюць заўважаць. Сябры пачалі на мяне па–іншым глядзець.

**– Прабач, але гучыць гэта неяк па–дзіцячы.**

– Ёсць і практычны бок. Удзельнікаў конкурсу навучылі рухацца. Візажыст даў парады наконт прычоскі, касметыкі.

**– Выбар "місак" праходзіць у зале. А на вуліцы можна зірнуць вакол і заўважыць дзесяткі дзяўчат не горшых, чым на сцэне.**

– Калі дзяўчына падае заяўку на ўдзел, нельга лічыць яе выскачкай. Яна ўпэўненая ў сваіх сілах, сваёй прыгажосці. І гэта добра. Кожная па–свойму прыгажуня. А ўпэўненасць – свайго роду гарантыя, што ў жыцці (асабістым таксама) усё будзе, як мае быць.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*



*Іна Каханоўская падчас апошняга конкурсу прыгажуняў у Маладзечне.*

ФОТА АНДРЭЯ КАСКІНА.

АНОНС

У наступным нумары па просьбах чытачоў (першымі да нас звярнуліся **Лідзія Краснова і Аляксандр Салагуб** з Маладзечна, а таксама **Мікалай Груздз** з Вілейкі) «РГ» плануе змясціць месяцавы каляндар агародніка.

Спецыялісты са стажам адкажуць на вашыя пытанні. Пішыце, тэлефануйце.

ПАДАРОЖЖА Ў МІНУЛАЕ

# Першыя параходы на Віліі

Летась у матэрыяле А. Зайцава "Юбілей экспедыцыі Тышкевіча" «РГ» расказвала чытачам пра экспедыцыю па рацэ Вілія ўлетку 1857 года.

А вось як перад гэтым у чэрвені 1856 года мясцовыя газеты "Виленскій вестник" і "Виленскія Губернскія ведомости" апісвалі з'яўленне першага парахода "Вильно".

Зроблены ў Кобенцы на Рэйне і прывезены праз Кенігсберг коштам графа Райнольда Тызенгаўза параход гэты ў 10 сіл названы Вільна і прызначаны пераважна для даследавання рэчышча ракі Віліі. Яна ў многіх месцах паміж Коўнам і Вільняй мае вялікія цяжкасці для плавання, але, бясспрэчна, з часам, пры садзейнічанні дабрадзейнага ўрада, зробіцца таксама судаходнаю, як і Эльба і Вісла, што лічыліся раней несудаходнымі.

Параход Вільна весяліць цяпер нашу публіку частымі паездкамі ў Веркі і Закрэт. Але ў хуткім часе накіруецца ў вярхоўе Віліі да аддаленых яе пристаняў Вілейкі і Вязыню. Потым вернецца ў Коўна, каб зрабіць падобнае падарожжа па Нёману.

У ліпені мы ўбачым яшчэ два параходы, кожны па 30 сіл. Яны прызначаюцца для буксіравання судоў з замежнымі таварамі па Нёману да Гродна і Стоўбцаў, а лайв (латышская назва малых судоў) і прускіх барак па Віліі да Вільна і іншых нашых прыстаняў.

Лайвамі шмат карыстаюцца на Дзвіне. У мінулым годзе (1855) Князь Людвіг Вітгенштэйн з гэтай мэты выклікаў з Бельгіі інжынера Карла Ронтгена, і той зрабіў апісанне рэчышча Віліі. Даследаванні дна, берагоў, падводных камянёў фінансаваў таксама Полацкі Павятовы Прадвадзіцель дваранства Людвіг Беліковіч, у бытнасць сваю ў Вільне ў 1853 годзе.

Граф Тызенгаўз, натхнёны прыкладам графа Андрэя Замойскага, першага заснавальніка параходства на Вісле, не шкадаваў выдаткаў і намаганняў. Цяпер кіраванне гэтай справай пераняў юны Аляксандр Гейман, які пашырыць справу па прыкладзе свайго прадзеда.

*Пераклад і апрацоўка матэрыялаў "Виленских Губернских ведомостей" (1856 г.) Святланы САРОКІ.*

З НЕНАДРУКАВАНАГА

# Дзённік

*(Знойдзены ў дупле дрэва ля санаторыя «Сасновы Бор»)*

***Працяг.***

***2–і дзень***. Пачынаю асвойвацца. Ідучы ў сталовую, незнарок дакрануўся да чыёйсьці рукі. Павярнуўся і сустрэўся поглядам з учарашняй незнаёмкай–прыгажуняй. "Эла, а можна Элачка, Элада", – пачуўся яе прыцішаны, мілагучны голас. "Аляксандр, Саша", – адказаў я. Пачулася: "Вось мы і пазнаёміліся".

У сталовай незнаёмка Элачка, Елачка, сядзела праз стол насупраць. Яна мне падміргнула. Чырвань заліла мой твар. Апетыт у жанчыны быў выдатны, можна было пазайздросціць – у талерцы нічога не заставалася. Выходжу са сталовай. Якраз і Элачка ўстала з–за стала і апынулася побач. Правінеў яе непаўторнай прыгажосці малады галасок: "Вы, Саша, напэўна, не ведаеце тутэйшых мясцін?" Не паспеў адказаць, як чую яшчэ: "Магу быць экскурсаводам". Глянуў бліжэй на субяседніцу, у яе чаруючыя вочы, ямачкі на румяных шчоках, прыпухлыя вусны, доўгія вейкі, шнурочкам бровы.

Згадзіўся на яе прапанову, адразу згадзіўся. Яна ж прызначыла час сумеснага падарожжа па наваколлі. Сама вызначыла маршрут.

***3–і дзень.*** Элачка каля фантана сказала мне, што з пятнаццаці год яе фігура назойліва лезла ў вочы мужчынам. Ёй не давалі праходу прадстаўнікі так званага моцнага полу ўсходняй афарбоўкі. Але яна ні з кім не хацела знаёміцца. Вось толькі цяпер я ёй спадабаўся. Яе пышны бюст у спалучэнні з тонкай таліяй, доўгімі нагамі і акруглымі бёдрамі зводзілі, напэўна, з розуму многіх.

Элачка хітрымі і спланаванымі загадзя пытаннямі выведала мой узрост, дзень нараджэння, занятак, сямейны стан. Прытым, быццам незнарок, сказала, што праз тыдзень у яе дзень нараджэння. А колькі Элачцы год? Ці ж прыстойна ў жанчын пра гэта пытацца? Можа гэта адштурхнуць ад яе. Успомніў, што пра жанчын гавораць: "Женщина в сорок пять ягодка опять".

Сэрца моцна білася. Элачка не была супраць, калі ўзяў яе руку ў сваю. Вавёрка–сваволніца з верхавіны елкі кінула нам пад ногі вялікую шышку. Ці не прыкмета гэта якая?

Элачка ўсміхнулася і з удзячнасцю глянула на вавёрку–прадказальніцу нейкай падзеі. Цямнела. Лезла ў галаву выказванне аднаго філосафа: "С наступлением темноты женщины становятся более сговорчивыми".

***4–ы дзень.*** Хадзілі з Элачкай у вёску Цыцавічы. Ішлі лесам. Элачка ні з таго ні з сяго цмокнула ў шчаку. Я асмялеў і адказаў тым жа.

– Тут, у "Сасновым бары", ты адзіны, хто заслугоўвае ўвагі. Не бянтэжся, што сівеюць валасы, мне падабаецца, – лепятала спадарожніца.

У магазіне Элачка спынілася каля прылаўка, дзе красавалася шкляная батарэя. Калі я спытаў у прадаўца, колькі каштуе "Пшанічная" (цана была напісана невыразна), Элачка кашлянула і ўшчыпнула за бок. Глянуў на яе і здагадаўся купіць каньяк.

***5–ы дзень.*** Хадзілі зноў у глыбіню лесу. Адшукалі стары пень, на ім паставілі ўчарашнія пакупкі. Як на тое, я забыўся прыхапіць з сабой шклянку і засумаваў, не ведаў, што рабіць. Элачка дастала з сумачкі складаны стаканчык. Па чарзе з яго пілі: за здароўе, знаёмства, за выпадак, які звёў і зблізіў нас. Я больш маўчаў, а шчабятала Элачка. Шэптам паведаміла, азіраючыся па баках, што ў пакоі будзе адна, бо напарніца паедзе дадому, каб нечаканым візітам праверыць паводзіны мужа. Я ўзрадаваўся такім абставінам і абяцаў... Успомніў верш аднаго паэта:

*Без іх, брат, што ні гавары –*
*Маркотна ў змроку ночы.*
*Таму тварэц нам і стварыў*
*На ўцеху род жаночы.*

Вечарам былі на танцах у фае санаторыя. Так моцна грымела музычная артылерыя, што пашкадаваў, што ватай не пазатыкаў вушы. Танцуючы, нічога не скажаш партнёршы, не чуваць голасу людзей з–за тых гукаў, што нясуцца з чорных скрынак–рэпрадуктараў. Трэба будзе напісаць у кнігу прапаноў, каб кожнаму танцору адміністрацыя выдавала вату для вушэй ці спецыяльныя навушнікі.

Праходзячы па калідоры, пачуў, як адзін ветэран казаў іншаму:

– Справядліва пісаў Леў Мікалаевіч Талстой: "Божа, які ты несправядлівы: сілы пазбавіў, а жаданне пакінуў".

Няўжо калі–небудзь будзе такое і са мною?

***Працяг будзе.***

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Злодзеі ідуць у навуку

ЗАСЛАЎЕ. Пры спробе крадзяжу аўтамабіля ў Заслаўі міліцыя затрымала аўтамабільных злодзеяў, якія ноччу 6 і 8 студзеня абакралі больш за 10 машын у Вілейцы. Імі аказаліся жыхары Маладзечна.

Пры затрыманні хлопцы паспелі частку крадзеных рэчаў утапіць у рэчцы. Каб іх падняць, міліцыянеры мяркуюць звярнуцца да вадалазаў з Вілейскай выратавальнай станцыі. Другая частка крадзеных рэчаў прадастаўленая для апазнання пацярпелым.

Выклікаў здзіўленне мікраскоп, прыхоплены ў нейкім гаражы. Магчыма, у будучым злодзеі збіраліся заняцца навукай?

*Ігар КІЦІКАЎ.*

## Агонь урававаць не здолеў

ВАЛОЖЫН. На тэрыторыі Вішнеўскага ўчастка ДРБУ–167 а 21–й гадзіне загарэўся вагончык–бытоўка. У агні загінуў 40–гадовы вартаўнік, жыхар вёскі Люташ.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Антонаву не пашчасціла

МАЛАДЗЕЧНА. Супрацоўнікі аддзела фінансавых расследаванняў ля ўнівермага "Няміга–Маладзечна" затрымалі "за работай" валютчыкаў.

Муж і жонка Сяргей і Ніна Бондары мянялі расіяніну Сяргею Антонаву 120 долараў.

Пры аглядзе ў Антонава канфіскавана 3045 долараў, у Маладзечанцаў – 592 долары, 400 рублёў Расіі і 92 мільёны беларускія.

Апрача таго, судом маладзечанцы аштрафаваныя на 25 мільёнаў рублёў. А Сяргей Бондар дадаткова адседзеў трое сутак.

*Аддзел інфармацыі.*

МЫТНЯ

## "Марголін", аўтамабіль і ікра

АШМЯНЫ. Толькі за адзін пераднавагодні тыдзень мінулага года супрацоўнікі Ашмянскай мытні выявілі 12 фактаў мытных адміністрацыйных правапарушэнняў. У парушальнікаў заканадаўства адабрана тавараў і іншых каштоўнасцяў на суму 16 мільярдаў 399 мільёнаў 565 тысяч рублёў.

Прыкладам, на пасту "Каменны Лог" да афармлення быў прад'яўлены груз "Фарш з індычыны". Аднак высветлілася, што на самай справе перавозіўся курыны фарш, пошліна на які ў два разы перавышае пошліну на фарш з індычыны.

На гэтым жа пасту грамадзянін Беларусі К. схаваў ад афармлення (не паказаў у мытнай дэкларацыі) пісталет "Марголіна" калібру 5,6 мм і 16 патронаў да яго.

На пасту "Клявіца" выяўлены і затрыманы кантрабандны тавар – 12 бляшанак чырвонай ікры. Яе за межы краіны на аўтамабілі "Форд–Эскорт" спрабаваў вывезці літовец.

Акрамя ікры, затрыманы і аўтамабіль.

*Павел МАКЛЮК, аддзел інфармацыі.*

КАРОТКА

## «Мода» на лічыльнікі

ВАЛОЖЫН. За апошні час прыродны газ падвялі ў 2469 кватэр горада і раёна. Палова "шчасліўцаў" паставіла сабе газавыя лічыльнікі.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Дамы–пенсіянеры

ВІЛЕЙКА. Самы старым домам горада лічыцца той, што знаходзіцца на балансе камунальных службаў і размяшчаецца па вуліцы Савецкай, 26. Яму 88 год.

Наогул жа, дамоў, пабудаваных да 1950 года, у горадзе 36.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Смаргоншчына і рэлігія

СМАРГОНЬ. 4 рэлігійныя канфесіі і 20 рэлігійных абшчын зарэгістраваны ў раёне.

На яго тэрыторыі функцыянуюць 8 цэркваў, 10 касцёлаў, 3 капліцы. У іх працуюць 5 праваслаўных святароў... 

*Павел МАКЛЮК.*

ГАНДАЛЬ

## Вясковы "падатак"

МАЛАДЗЕЧНА. Калі параўноўваць цэны на харчовыя прадукты ў гандлёвых пунктах Маладзечаншчыны, то высветліцца, што яны складаюцца не на карысць раёна. Прыкладам, у Лебедзеўскай хлебнай краме кошт бохана самага таннага, нізкай якасці хлеба вагаецца ў межах 17–18 тысяч рублёў.

Такім чынам, работнікі хлебнай нівы, што тут жывуць, у тым ліку, ветэраны вайны і працы, чымсьці розняцца ад гарадскіх жыхароў, якія плацяць за аналагічныя прадукты значна менш, чым іх суседзі–вяскоўцы. За хлеб, прынамсі, 13–14 тысяч.

*Алесь ЦАДКО.*

БЕЗ ПАЛІТЫКІ

## Калгасы ў апазіцыі

ВАЛОЖЫН. Пастанова Савета Міністраў прадугледжвае перадачу калгасных лясоў у склад дзяржлесфонду на працягу года. У раёне такіх лясоў 9230 гектараў.

Пакуль перадача ідзе марудна. Ігнаруюць пастанову калгасы "Камсамолец", "Верны шлях", "Рассвет", "Новае жыццё".

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 3.02 | 10.02 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 310 | 310 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | – | – |
| Сардэлькі свіныя | 1 кг | – | 340 |
| Селядзец | 1 кг | 290–300 | 284–290 |
| Рыс | 1 кг | 160 | 160 |
| Цукар | 1 кг | 123 | 125 |
| Грэчка | 1 кг | 120 | 120 |
| Алей | 1 л | 250 | 250 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 89 | 85 |
| Маянэз | 250 г | 60 | 60 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 350 | 340 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 100 | 100 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 75 | 75 |
| Лімоны | 1кг | 325 | 350 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 120 | 120 |
| Масла | 1 кг | 250 | 250 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 140 |
| Малако | 1,5 л | 40 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 180 | 180–200 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 100 | 100 |

КАМАРОЎКА 7.02.

## Марожаная рыба

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Грэнадзёр | 1 кг | 630000 | Камбала | 1 кг | 350000 |
| Хек | 1 кг | 540000 | Мінтай | 1 кг | 340000 |
| Акунь мар. | 1 кг | 480000 | Скумбрыя | 1 кг | 300000 |
| Траска | 1 кг | 450000 | Селядзец | 1 кг | 215000 |
| Аргенціна | 1 кг | 420000 | Путасу | 1 кг | 195000 |
| Гарбуша | 1 кг | 420000 | Сайка | 1 кг | 170000 |
| Луфар | 1 кг | 380000 | Кілька | 1 кг | 170000 |

СЕРВІС

## Лепшае сярод сістэмы

СМАРГОНЬ. 23 прадпрыемствы грамадскага харчавання, якія маюць 1844 пасадачныя месцы, працуюць цяпер на Смаргоншчыне. Лепшым прызнана МП "Ніва–ЗАС", якое займаецца яшчэ закупачнай дзейнасцю і вытворчасцю прадукцыі.

Пачынала прадпрыемства з нуля, а цяпер рэалізуе да 150 тон мясапрадуктаў, сыравэнджаныя кілбасы, кандытарскія вырабы, а цэх па засолцы рыбы пастаўляе на прылаўкі дзесяткі тон селядцоў, вэнджанай скумбрыі, ляшчоў.

Тавараабарот "Нівы–ЗАС" за апошні год узрос у 2,5 раза, а выпуск прадукцыі ўласнага прыгатавання – у 2,8 раза.

*Павел МАКЛЮК.*

ШКОЛА

## У падарунак дапаможнікі

ВАЛОЖЫН. Прайшоў семінар для настаўнікаў нямецкай мовы са сталічнай вобласці. Супрацоўніца федэральнага ведамства нямецкіх школ за мяжой Магдалена Мэтслер, якая прысутнічала на семінары, удзельнікам перадала новыя дапаможнікі па прадмеце.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ГАНДАЛЬ

# На ўсю Камароўку адна прыбіральня

***МІНСК. Назва Камароўскага рынка бярэ сваё паходжанне ад Камароўскага балота, якое было на краі горада. З часам сталіца разраслася, балота асушылі, а на гэтым месцы вырас новы раён – з ім і рынак. Кажуць, што месца гэта гіблае і людзі тут хварэюць часцей, чым дзе. Хаця афіцыйных фактаў, што пацвярджаюць гэта, я нідзе не знайшоў.***

Калі чалавек упершыню апынецца на рынку, ён вельмі ўражаны той колькасцю людзей, якія бясконцым патокам штурхаюцца, бывае, просяць прабачэння і рухаюцца далей – кожны па сваіх справах; галава кружыцца ад тых водараў, што носяцца над рынкам,– паху вэнджанасцяў там, дзе гандлююць мясам і рыбай, жывых кветак, спецый амаль з усяго свету, шашлыка, які гатуюць на вуліцы. І тут жа – пах аміяку, які ідзе з прыбіральні. Уражваюць, вядома, і цэны – ад адносна невялікіх за субпрадукты і вельмі высокіх за чырвоную рыбу і ікру.

Гэты рынак мае шмат сакрэтаў, якія нельга адкрыць за адно наведванне. Вось некаторыя, якія адкрыліся мне за паўгода работы на самым вялікім харчовым рынку рэспублікі.

Калі вы прыедзеце на рынак на машыне, будзьце вельмі ўважлівыя са стаянкай. Калі станеце на забароненым месцы, самае лепшае, што можа здарыцца – у вас здымуць нумары (штраф ад 500.000 і вышэй), а ў горшым выпадку вашу машыну адбуксіруюць на штрафпляцоўку (ад 1.500.000 і вышэй). Таму лепей паставіць на платную стаянку (гл. схему). Гэта каштуе 20.000–40.000 рублёў, у залежнасці ад месца.

Вуліцы вакол рынку для "даішнікаў" сапраўдны Кландайк, бо рухацца без парушэнняў тут амаль немагчыма. З вялікай масы парушальнікаў яны з лёгкасцю "вышчымліваюць" правінцыялаў. Гэта не цяжка, бо амаль усе яны ездзяць на патрыманых іншамарках і "Жыгулях" узростам каля 10 год.

Пасля паркоўкі можна рушыць па пакупкі. Але не спяшайцеся набываць тое, што вам патрэбна, бо цэны, у залежнасці ад месца, могуць адрозніваецца вельмі істотна. Дарагімі з'яўляюцца месцы каля ўваходаў–выхадаў, у цэнтральных праходах, бо тут найвялікшая праходнасць.

Перад тым, як закупляць прадукты, трэба злёгку падсілкавацца, каб з голаду не пакупляць непатрэбнага.

Не надта слухайце гандляроў, бо вам могуць прапанаваць самую белую муку, з якой потым атрымаюцца шэрыя бліны, самы салодкі цукар, якога трэба насыпаць у гарбату паўшклянкі, ці што–небудзь самае свежае з пратэрмінаванай датай выпуску. Перш за ўсё, давярайце сваім вачам.




*План–схема Камароўскага рынку.*

Абавязкова панюхайце мяса, моцна націсніце на яго: калі ямка адразу выраўняецца, яно добрае.

Садавіну і агародніну выбірайце самі, бо гандляр са спрытнасцю фокусніка са скрыні ў ваш пакет перакладзе самую дрэнную. Пры гэтым вы нічога не заўважыце.

Калі набываеце нешта на вагу, дастаньце калькулятар, "зрабіце важны выгляд" (як казаў Астап Бендэр) – тады вас наўрад ці аблічаць.

Калі вы заўважылі, што вас абважылі ці аблічылі, то звярніцеся да кантрольных вагаў ці кантралёра, якія ёсць у кожным сектары. Вам абавязкова вернуць грошы, бо пазбавіцца месца на Камароўцы ніхто не жадае.

Не падумайце, што на рынку адны мухляры. Але ж сярод вялікай колькасці прыстойных гандляроў яны сустракаюцца.

Камароўскі рынак падзяляецца на 5 больш–менш самастойных зон. Крыты рынак самы дарагі. Тут прадаюцца мяса, вэнджаная і салёная рыба, кілбасы, спецыі, адборная садавіна і агародніна, малочныя прадукты, жывыя кветкі.

На сезонным рынку гандлююць дарамі нашай зямлі: садавіной, агароднінай, грыбамі, лекавымі раслінамі.

Самы танны рынак – ТТП–1 (таварна–тэхналагічная пляцоўка). Тут гандлююць бакалеяй і марожанай рыбай.

Агародніна і садавіна, што прывозяць з–за межаў краіны, самая танная на ТТП–2. Таварам гандлююць з машын. За сезон тут можна сустрэць гандляроў з усяго былога СССР.

Падсілкавацца на Камароўцы можна ў добрым дзесятку пунктаў. Найбольшай папулярнасцю карыстаецца, мусіць, кафэ "Сыты папа" і піўны бар "Ячменны вус". Побач з барам з рук гандлююць сушанай рыбай: плотка, акунь, вобла, лешч, шчупак, з ікрой і без, сухая і вяленая на любы густ.

Па ўсім рынку гандляры разносяць булачкі і пончыкі з капустай, бульбай, рысам, арэхамі і яблыкамі. Для азіятаў і іншых аматараў прапануюць сапраўдны плоў. Наогул, на ТТП–2 каля плота можна ўбачыць, як на пераносных газавых плітках гатуюць плоў і шурпу, а потым тут жа з вялікім апетытам ядуць, запіваюць перабрадзілым кумысам.

На ўсю Камароўку адна прыбіральня. Не ведаю, як у жаночай, не давялося пабываць, а ў мужчынскай страшэзны бруд, а водар аміяку можа вывесці да яе без усялякіх указальнікаў. Трэба яшчэ і заплаціць 3000 рублёў.

Вялікае скапленне народа з грашыма прыцягвае да сябе кішэннікаў – будзьце ўважлівыя. Грошы трэба хаваць бліжэй да цела, бо нават скураная сумка можа быць разрэзаная.

Акрамя злодзеяў, тут шмат жабракоў ды бамжоў. Некаторыя ходзяць па радах і просяць грошы ці тое, што прадаецца, каб хаця трохі пад'есці. Іншыя корпаюцца ў смеццезборніках, адбіраюць менш гнілую садавіну і агародніну. Аматары выпіць ад раніцы цягаюць цялежкі з таварам з рынку да машын, зарабляюць добра, бо цвярозыя амаль не бываюць.

Бліжэй да абеду з'яўляюцца зборшчыкі макулатуры. Справа ў тым, што ў гэты час з ларкоў і машын пачынаюць выстаўляць пустыя кардонныя скрыні. 1 кг макулатуры каштуе 1800 рублёў.

Цэнтральны ўваход на рынак вельмі падабаецца музыкантам. Па–першае, тут шмат людзей, па–другое, яны яшчэ не патрацілі грошы і таму добра падаюць. Аднойчы іграў нават сімфанічны аркестр.

Ёсць тут свой "Высоцкі". Яго хрыпаты голас прыносіць добры заробак. Ёсць зусім яшчэ маленькая дзяўчынка 10–12 год, якая грае на флейце тужлівыя мелодыі. Ёсць дзве бабулькі пад 70. Яны пад бубен спяваюць прыпеўкі.

А летам у пераходзе на гармоніку граў сумныя песні хлопец у парваным старым адзенні. Яго шапка была заўсёды поўная грошай. Аднойчы давялося ўбачыць, як ён раніцай прыехаў на рынак на іншамарцы ў добрай дарагой адзежы, потым перапрануўся і пайшоў зарабляць грошы.

Каля 17–19 гадзін рынак пачынае заціхаць: знікаюць пакупнікі, збіраюцца дадому гандляры. Потым тэрыторыю абыходзіць ахова, каб не застаўся паспаць які–небудзь бомж ці проста стомлены ад алкаголю гандляр або пакупнік, бо ноччу тэрыторыю ахоўваюць службовыя сабакі.

Кожны вечар разумееш, што рынак стаміў цябе, надакучыў, што ты не жадаеш яго бачыць. Але наступнай раніцай становіцца зразумела, што не можаш жыць без яго, што гэта не столькі работа, колькі лад жыцця.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

